*Беларусь вышэй за ўсё!*



# БУДЗЬМА!

**Незалежная газэта, №3** **лістапад-сьнежань 2000 г.**

## ЗАНАТОЎКІ НАЗІРАЛЬНІКА (ПРА ВЫБАРЫ Й НЯ ТОЛЬКІ)

Адгулі й адышлі ў гісторыю ці, дакладней кажучы, у небыццё так званыя "выбары" ў палатку прадстаўнікоў нацыянальнага зброду. Немаведама як ты, шаноўны чытач, адносісься да іх, але ж зараз размова пойдзе не аб "выбарах", а пра тое, што пабачыў за адзін дзень звычайны назіральнік.

Працоўны дзень мой пачаўся а палове на сёмую ўранку 15 кастрычніка. Як заўжды, прачынацца было лянота, і з-за гэтага я ледзьва не спазьніўся на працэдуру апячатваньня вурнаў. Прыйшоўшы на ўчастак, я першай справай спытаўся аб агульнай колькасьці выбаршчыкаў ды наяўных бюлютнёў. Пасьля гэтага я са спакойнай душою прысеў на прапанаванае мне крэсла й пачаў выконваць свае назіральніцкія абавязкі. Як заўжды, з самага ранку на ўчастку было пуста. І толькі час ад часу якая небудзь шалёная бабулька, якой ня сьпіцца ўранак, прыбягала, каб выканаць свой "гражданский долг".

Блізу 10 гадзін старшыня выбарчай камісыі спытала ў назіральнікаў (акрамя мяне там было яшчэ некалькі інфантыльных асобаў, якіх вылучыў працоўны калектыў, і якім, шчыра кажучы, хацелася пайсьці да сваіх жонак замест таго, каб тырчэць на ўчастку больш за 12 гадзін), ці не жадае хто-небудзь пайсьці па хатах разам з сябрамі камісыі й пераноснай вурнаю. Азірнуўшыся навокал, я пабачыў, што астатнія назіральнікі уважліва разглядаюць: столь, падлогу, плякаты з агітацыяй, гузікі на сваіх строях, - і нібыто ня чуюць старшыню. Тады я вырашыў, што ініцыятыву трэ' браць на сябе.

На нашую долю дасталіся дамы, у якіх большую частку насельніцтва складаюць тыя, хто яшчэ памятаюць як бралі Зімні: самай маладой сярод іх было больш за 60 год. Трэба адзначыць, што ўсе гэтыя людзі працавалі ці на Камвольным камбінаце, ці ва ўстановах, дзейнасьць якіх датытакалася да дзейнасьці камвольшчыкаў.



Першая кватэра. З-за дзьвярэй чуцён голас бабулькі, якая пытаецца, хто мы такія й што нам трэба. Пачуўшы, што гэта з выбарчага ўчастку, бабуля хуценька расчыняе дзьверы. Пасьля таго, як усе фармальнасьці выкананыя – праверана пашпарт, бабулька расьпісалася за бюлетэнь – пачалося самае цікавае: жанчына з выбарчае камісыі дастала аркуш паперы, на якім былі зьмешчаныя партрэты й кароценькія біяграфіі кандыдатаў. І вось тут-та бабуля пачала выбіраць "свайго" дэпутата. Аднак, усе яны добрыя на паперцы, каго выбраць – чорт яго ведае.

І так паўтаралася й у другой, і у трэцяй, і ў 35-й кватэры. Бабулі й дзядулі зусім ня ведалі, хто балятуецца па іх акрузе, хто яны такія й што прапаноўваюць выбаршчыкам. Сярод крытэраў, якімі больш за ўсё карысталіся пэнсыянэры: "ну вот она же женщина, так может добрее будет", "ах, она из исполкома?! А мне вот они недавно то-то сделали", "а у меня муж был военным, вот за офицера и проголосую", - і той, які сустракаўся найчасьцей: "главное, чтобы не бэнэфовец".

Ды, зрэшты, гэта й ня саме галоўнае. Не такая ўжо істотная рэч, за каго прагаласавалі пэнсыянэры ці калі яны ўпершыню пабачылі кандыдатаў.

Бачылі б вы, у якіх умовах жывуць людзі, якія ўсё сваё жыцьцё працавалі на гэтую дзяржаву, гадавалі такіх як А.Г.Л. Сэрца сьціскаецца, калі бачыш, што заслужаны настаўнік Беларусі сьпіць на канапе, якой як мінімум год 30, ня маючы ні навалкі на подушку, ні прасьціны. Цяжка разумець, што гэтыя людзі не былі на паветры колькі ўжо дзён, тыдняў ці месяцаў, бо самыя яны ня ў стане перасоўвацца, а дапамагчы ім няма каму. Непасьцігальна, чаму людзі, якія стваралі эканамічную моц нашае краіны, сумленна працавалі ўсё жыцьцё, на прыканцы яго засталіся непатрэбнымі нікому, а ўспамінаюць пра іх толькі пад час чарговых выбараў. Дый тое, успамінаюць тыя, каму жыцьцёва неабходныя іхныя галасы.

Для мяне гэта быў цяжкі ўдар. Не, не таму, што я ня ведаю, у якой краіне жыву. Проста раней я ня ведаў, што такая велькая частка насельніцтва жыве за мяжой якая падзяляе беднасьць і галечу. І вось тут само-сабою ўзьнікае пытаньне: ці ня сормна вам, таварыш "прэзыдэнт" перад імі? Ці ніколі вы ня бачылі старых-

*(працяг на стар. 2)*

### АД РЭДАКТАРА

**Шаноўны чытач!**

*Ура! Ура-ура! Ну вось, нарэшце мы й дачакаліся трэцяга нумара нашае газэты! А як кажуць, тры - шчасьлівая лічба. Таму будзем лічыць гэты нумар за талісман як для нас, так і для вас нашыя дарагія чытачы. Спадзяемся, што другі нумар чытаць было цікава, а трэці не саступае ў цікавасьці другому. Ну а зараз - праглядай анонс і - ўперад!*



## Show must go on II,

*частка 2*

***Як паведамлялася ў №2 нашае газэты, 23 верасьня міліцыянтамі былі затрыманыя сябры Сьвіслацкай Рады Маладога Фронту за ўдзел у акцыі "Байкот 2000".***

Недзе праз тыдзень да двух сябраў СРМФ патэлефанаваў нейкі таварыш, які прадставіўся супрацоўнікам Ленінскага раённага аддзела КГБ Казлоўскім. Дык вось, гэты самы таварыш прапанаваў Сяржуку й Ляксею сустрэцца зь ім, каб "поговорить". Ведаючы па наслышцы, дзеля чаго звычайна ГБісты выклікаюць людзей на "разговоры", хлопцы рашуча адмовіліся. Болей іх ніхто не турбаваў. Але ж не выключана, што абодва трапілі ў дасьсе КГБ, і невядома, чым гэтыя тэлефанаваньні адаб'юцца ў будучым.

І вось нарэшце 12 кастрычніка адбыўся суд над Ляксеем і Сяржуком. Паводле прысуду, Сяржук атрымаў папярэджаньне, а Ляксей – штраф у адзін мінімальны заробак. Але ж гэта не самае істотнае. Як сказаў адвакат хлапцоў, сп. Барыс Гюнтэр, пад час судовага паседжаньня, "судзілі не канкрэтнага грамадзяніна, а ягонае канстытуцыйнае права мець сваю ўласную думку". Далей ён зазначыў, што "ў гэтым вінаватыя не суды ці судзьдзі, а тыя, хто павінныя тлумачыць ім (судзьдзям), як сябе паводзіць у такіх абставінах".

І вось з нагоды гэтых словаў я хацеў бы зьвярнуцца да тых, хто прымае так званыя "законы": калі нарэшце ў Рэспубліцы Беларусь суды будуць сапраўды незалежныя? Калі людзей будуць судзіць па законах, а не па ўказцы сашы ці віці шэймана?

Ну а пакуль я (ды й астатнія незалежнікі) чакаем адказы на гэтыя пытаньні, ведайце: я – БЕЛАРУС! На гэтай зямлі жылі мае продкі!! На ёй будуць жыць мае нашчадкі!!! І я хачу, каб мае дзеці ведалі, што такое Вольнае Сонца Вольнай Беларусі! І помніце: я такі не адзін! Нас больш за 10 мільёнаў! Ды не забудзьцеся паглядзець на свайго любімага Бальканскага Тыгра Слобу!!

**Дзед Барадзед**

***P.S.*** *Вялікі дзякуй ПЦ "Вясна" за адваката ў судзе й пакрыцьцё выдаткаў на штрафы.*

## *Адкрыты ліст старшыні Сьвіслацкай Рады Маладога Фронту Ляксея Шыркаўца да сябраў СРМФ, кіраўніцтва МФ, усіх сумленных беларусаў*

***Хутка Каляды й Новы год – адныя з найболей любімых сьвятаў ва ўсім сьвеце. Кожны год людзі ў гэтыя сьвяты ўспамінаюць год мінулы, асэнсоўваюць яго й будуюць пляны на год будучы. Гэтак жа я хачу азірнуцца на 2000 год і прааналізаваць тое, што было зроблена маёй Радаю за гэты год.***

Пачнем з самага пачатку, то бок з пачатку года. Дык вось, выдаўся ён, можна сказаць, спакойным: працы было няшмат, дый тая, што была – зусім лёгкая: расклейка ўлётак, распаўсюд агітацыі, адным словам – звычайная праца Маладога Фронту.

Далей была вясна. І вось гэта быў, бадай што, самы цяжкі й небясьпечны перыяд нашае дзейнасьці: усе памятаюць, чым скончылася акцыя 25 сакавіка. Так-так, больш за 500 затрыманых, сярод якіх, дзякуй Богу, не было сябраў СРМФ. Ну, калі шчыра, то й гэта быў ня самы цяжкі перыяд. Самае цяжкае чакала нас наперадзе, а пакуль што мая Рада пачала выдаваць сваю газэту – "Будзьма!", – якую ты зараз трымаеш у руках.

Але ж адгула прыгажуня-вясна, і ўслед за ёю прыйшло лета. Яно было ўдвая напружлівей для нас з-за таго, што, па-першае, пачаліся выпускныя іспыты ў школках – а палова сябраў маёй Рады на той час была школярамі, - па-другое, наперадзе была яшчэ ўся сэсыя і, па-трэцяе, 1 ліпеня меўся адбыцца III Сойм Маладога Фронту.

І вось менавіта Сойм стаў для нас найцяжэйшым іспытам, праверкаю на трываласьць і аднадушша. Усе маладафрантоўцы да гэтых часоў памятаюць ягоныя падзеі: параза апазыцыі Севярынцу; сыход добрых людзей, выдатных прафэсыяналаў ды й проста маіх добрых сяброў са складу МФ. І гэта было б яшчэ паўбяды, калі б сярод тых, хто ня змог згадзіцца з палітыкаю сп. Севярынца не было, цяпер ужо былога, старшыні СРМФ Уладзі Лабковіча. Гэты факт выбіў з каляіны увесь актыў Рады, бо, сапраўды, усе мы былі сябрамі,



усе разумелі адзін аднаго з паўслова. Для мяне гэта было ўдвая неча-кана, бо я, шчыра кажучы, ня быў гатовы ўзяць на сябе цяжар адказнасьці за лёс Рады.

Але ж час пакрыху йшоў, і хутка прыйшла восень. А разам з ёю – "выбары" ў "палатку". Вось тут та мы й здолелі паказаць, чаго мы, як арганізацыя, вартыя: 3 пікеты, праведзеныя разам са Сьвіслацкай Радай БНФ, сотні раздадзеных газэтаў, тысячы раскіданых улётак, затрыманьне актывістаў Рады. Але ж не затрыманьні, не суды, не тэлефанаваньні ГБістаў ня здолелі зламіць незалежніцкі дух маладафрантоўцаў. І гэта яны выдатна пацьвердзілі пры падрыхтоўцы й правядзеньні акцыі "Пераменаў!". Хлапцы й дзяўчаты ня толькі выдатна папрацавалі пры правядзеньні агітацыі за акцыю, але ж яны былі ў першых шэрагах тых, хто выйшаў на праспэкт Скарыны 12 лістапада, хто на сваёй скуры паспрабаваў "смак" АМАПаўскіх дубінак…

Я ўжо не кажу пра тое, колькі Шоў беларушчыны правялі нашыя Ды-Джэі Адраджэньня, пра канцэрты беларускіх гуртоў, якія ладзіліся нашымі сіламі ў Серабранцы… Я не кажу і пра шмат што іншае, бо для гэтага ня хопіць месца ў газэце.

Вядома ж, усё было ня так гладка, як хацелася б. Былі й ёсьць некаторыя супярэчлі-выя погляды на пэрспэктывы разьвіцьця Рады, але ж, я спадзяюся, мы здолеем прыйсьці да кансэнсуса, як казаў адзін вядомы дзяяч. Галоўнае – гэта тое, што мы выжылі, ды ня проста выжылі, але ж і працягваем расьці, як колькасна, так і якасна.

*Я ведаю, што наступны год будзе цяжкім. Беларусі патрэбна будзе зрабіць свой выбар: стаць квітнеючай эўрапейскай дзяржаваю, ці застацца запаведнікам камунізму. Але ж я ўпэўнены: мы гатовыя працаваць дзеля будучыні нашае Радзімы й зробім усё магчымае, каб беларусы зрабілі правільны выбар!*

***ЖЫВЕ СЬВІСЛАЦКАЯ РАДА!***

**Ляксей Шыркавец**

## ПАЎСУР'ЁЗНАЯ КРОНІКА

***15 лістапада***

*Адміністрацыйная камісыя адміністрацыі ленінскага раёну прысудзіла Ляксею й Сержуку штраф у памеры 7800 рублёў за ўдзел у кампаніі "Байкот 2000" (падрабязнасьці гл. у нумары 2 за верасень-кастрычнік)*

***15 сьнежня***

*У Палацы Культуры Беларускага таварыства глухіх адбылася дабрачынная вечарына па зборы падарункаў для хворых дзяцей.*

Дадзеная акцыя праводзіцца ўжо не першы раз. Асноўнай мэтаю вечарыны, па словах арганізатараў, зьяўляецца "аб'яднаньне людзей дзеля стварэньня салодкага сьвята для хворых дзяцей".

***15 сьнежня***

*Невядомымі былі зьбіты сябра СРМФ Віталь і сябра МФ Ільля. Віталь, на момант напісаньня артыкулу, знаходзіцца ў Бараўлянскім шпіталі.*

***19 сьнежня***

*У к/з "Менск" адбылася прэзэнтацыя супольнага праэкту НРМ, "Крыві", А. Памідорава і інш. беларускіх музыкаў "Я нарадзіўся тут" (больш падрабязна пра канцэрт чытайце на старонцы 5).*

***25 сьнежня - Каляды***

*Няхай і з вамі здарыцца цуд на Каляды.*

***31 сьнежня - 1 студзеня***

*З Новым Тысячагодзьдзем, сябры! Хай будзе ўсё так, як трэба нам!*

## Занатоўкі...

*(працяг са стар. 1)*

жабракоў? Можа вы жывяце на іншай плянэце, дзе няма галодных людзей, жабракоў, хваробаў ды галечы? Колькі ўжо можна эксплюатаваць няшчасных людзей ў сваіх паганых, брудных мэтах?

Недзе пасьля абеду пачаўся спад наведваньня ўчастка выбарнікамі, але ж зачасьцілі так званыя "міжнародныя назіральнікі", якія пыталіся пра тое, як ідзе галасаваньне, ці заўважаны якія-небудзь парушэньні, etc. Пасьля ўсяе гэтай працэдуры яны адразу ж казалі, што, у прынцыпе, выбары даволі 'ткі дэмакратычныя. І ў зьвязку з гэтым хацелася б даведацца ў "назіральнікаў", што яны думаюць пра наступны факт.

Спад актыўнасьці, які пачаўся недзе пасьля 13.00, працягваўся да закрыцьця ўчастку, то бок да 20.00. Яўка была відавочна праваленая, кожныя паўгадзіны сакратар участковай камісіі тэлефанавала кудысьці, мабыць у Адміністрацыю раёну, паведамляла працэнт яўкі. Са слухаўкі раз-пораз даносіліся нечыя крыкі, сярод якіх можна было пачуць узгадваньне мужчынскіх генэталіяў, чыюсьці маці, etc.

Але ж самае цікавае пачало адбывацца пасьля закрыцьця ўчастка. Былі вываленыя на стол усе білютні, якія ахайна падлічылі сябры камісіі, былі падлічаныя галасы, пададзеныя "за" й "супроць" кожнага кандыдата, агалошаныя афіцыйныя вынікі й вывешаная копія выніковага пратакола, які вельмі зацікавіў мяне. Справа ў тым, што перад самымі выбарамі мне была паведамленая агульная колькасьць выбарнікаў – 1784 чалавекі, а ў выніковым пратаколе на 68 чалавекі меней. Прынялі ўдзел у галасаваньні 863 чалавекі, што склала, няцяжка падлічыць, 50% + 10 галасоў выбарнікаў, што дало падставу прызнаць выбары адбыўшыміся. Але ж, шаноўнае спадарства, куды зьніклі 68 чалавек? Яны раптоўна памерлі, выпісаліся з тэрыторыі гэтага ўчастка, загінулі ў выніку прыроднага катаклізму ці выбуху бомбы?

*Няма адказу... Ні ад старшыні камісіі, ні ад... самі ведаеце каго... І, мабыць, ня хутка мы атрымаем адказы на ўсе пытаньні, што хвалююць нас.*

**Дзед Барадзед**

## Як жыць далей?

## Хопіць хаваць твары!

*Здаўна вядзецца, што чалавек увесь час за нешта змагаецца. Хтосьці за свабоду й правы, хтосьці за ўладу, а хтосьці й яшчэ за што-небудзь іншае.*

Першага кастрычніка ў Менску прайшоў "Марш Свабоды'2000", які быў арганізаваны аб'яднанай групоўкаю дэмакратычных сілаў. "Марш" сабраў вялікую колькасьць сумленнага люду – ад старэйшых школьнікаў і студэнтаў да бабуляк пэнсыйнага ўзросту. Усе ўздымалі адну вялікую праблему – правядзеньня дэмакратычных выбараў у нашай краіне. І я таксама згодны, што гэтая праблемавельмі востра стаіць на наяўны дзень.

Але ж хочацца падняць яшчэ адну, вельмі яскравую праблему Маршаў: чаму чвэрць маршаўцаў хаваюць свае твары пад хусткамі? Да чаго мы дойдзем такімі мэтадамі?! Чаму нашыя барацьбіты баяцца рэжыму лукашэнкі?



*фота «Будзьма!»*

Якім бы ён – лука – ня быў страшэнным, ды з усімі нічога ня зробіць!.. Так, ДБ-шнікі запужалі нашых братоў звальненьнем з працоўных мейсцаў, запужалі тым, што студэнты "павылятаюць" са сваіх ВНУ, каледжаў і вучэльняў, але...

Сябры!... Калі мы ўсе так і будзем хаваць свае твары, дык на нас ніхто не будзе зьвяртаць аніякай увагі. Калі ж нас будзе шмат, мы будзем моцнымі. Лукашэнкаўскія падхалімы могуць уплываць на лёсы маленькай колькасьці людзей, а на ўсіх, якую б яны ня мелі ўладу, у іх ня хопіць кайданоў! Трэба паказаць ворагам, што мы не пужаемся іх. Мы –беларусы, і мы павінныя мець пачуцьцё ўласнай годнасьці. Мы павінны супрацьстаяць тым, хто не дае магчымасьці адраджацца нашай краіне!

Дык можа здымем свае хусьцінкі!..

**Уладзь Мак**

*Ненавіджу!.. Ненавіджу гэтую плянэту, ненавіджу гэты сьвет, ненавіджу гэтую краіну, ненавіджу гэты народ, ненавіджу гэты рэжым!.. НЕ-НА-ВІ-ДЖУ!!!*




Я гатовы паўтараць гэтыя словы і раз, і два, і тры, калі спатрэбіцца! Гатовы паўтараць да тых часоў, пакуль кожны з тых, хто лічыць сябе ЧАЛАВАЕКАМ, не зразумее: вы ўсе проста статак жывёлаў! Вы, homo sapiens, нічога не вартыя, як паасобку, так і ўсе разам!

Ну чаму, чаму, скажыце мне, вы думаеце, што ўсё круціцца вакол вас, што ад вас нешта залежыць у гэтым жыцьці? Вы ж па большай частцы нічога ня мо жаце й ня ўмееце! У вас існуе толькі адзіны рэфлекс: есьць, спаць, пладзіцца. Далей ваш розум нават не спрабуе зазірнуць!

Чаму вы думаеце, што вам нехта нешта павінен, што нехта некалі рабіў ці зробіць штосьці для вас, што прыйдзе добры дзядзька, які расплюшчыць вам вочы й зробіць вашае жыцьцё казачным? Чаму вы не ведаеце сваёй мовы, не памятаеце звычаяў продкаў, зьдзекуецеся з тых, хто размаўляе на роднай мове?

Чаму вы, чалавекападобныя, зьяўляецеся вялікімі палітыкамі й барацьбітамі на сваіх кухнях, а як даходзіць да справы – адразу ў кусты? Чаму вам падабаецца тое, што йснуе ў Беларусі зараз, чаму вы са макам угрызаецеся ў косьці, якія літасьціва кідае вам ваш цыганскі гаспадар?

Людзі ... Не, усё ж 'ткі ня людзі, а чалавекападобныя. Людзі – гэта тыя, хто можа пераламіць ходу гісторыі, паспрабаваць зрабіць нешта для сябе й астатніх, стварыць свой лёс і лёс ваш! Людзі – гэта Леў Сапега, Тадэвуш Касьцюшка, Кастусь Каліноўскі!

Вы ўсё яшчэ думаеце, што самыя можаце стварыць свой лёс. Не, вам ня дадзена такога дару, такой моцы ад Бога! Па большай частцы адбываецца так, што ваш лёс вызначаюць людзі, якія маюць вельмі моцнае ўяўленьне. І выплёскваюць ваш лёс на старонкі сваіх кніг, якія вы потым спрабуеце прачытаць і зразумець, а калі гэтага не атрымоўваецца, кажаце, што кніга вельмі сур'ёзная. Не, усё ня так! Няма сур'ёзных кніг! Усе кнігі пра ваш лёс, трэба толькі ўмець разгледзіць, дзе напісана менавіта пра цябе, чалавечык.

Вы думаеце, што ўсё ў гэтым сьвеце - для вас! А калі ўсё гэта ня так? Ці ня можа быць такога, што ўсё гэта стваралася не для вас, не для вашых брудненькіх рук і шэрэнькіх мазгоў, а для таго, хто гэта ўсё стварыў. Бо зроблена усё гэта такім жа самым, як і вы, недалёкім чалавечышкам, які толькі здолеў зразумець, што пра яго будуць памятаць праз стагодзьдзі, і гэтым цешыў сябе.

Вось зараз я бачу перад сабою раз'юшаны твар таго homo, які чытае тое, што напісана мною. Я амаль фізычна адчуваю, як яго перапаўняе злосьць на мяне, як ён хоча знайсьці мяне й прыдушыць! А ты супакойся, чалавекападобны, супакойся і падумай: калі ўсё гэта ня так, то чаму ты злуесься?

І яшчэ адзін твар перада мною: нейкі пасмурны, ня злы, але ж і ня добры. Гэты homo думае, як я мог да такога апусьціцца, забыцца пра тое, што Езус наказваў нам любіць адзін аднаго. А за што, за што мне любіць цябе, што ты зрабіў у гэтым жыцьці такога, каб я пачаў хаця б паважаць цябе?

Ды й дзе тая вашая любоў? З танкамі й аўтаматамі на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў 1939? З рэферэндумным бюлютнём у 95-м і 96-м? З дубінкамі й шчытамі на праспэкце Скарыны? У "абязьяньніках" РАУСаў? За дзьвярыма КДБ ці дзе? ДЗЕ-Е-Е?

Маўчыш? Няма, што сказаць? І ніколі ня будзе! Бо ты – ЧАЛАВЕКАПАДОБНЫ!

А хто такі я, пытаесься? Я – ЧА-ЛА-ВЕК! Той чалавек, які ніколі ня будзе сядзець і чакаць, пакуль за яго прыдумаюць ягоны лёс! А зваць мяне:

**Троч Дэвіль**

# Абракадабра ў Маленькім Парыжы

***Маленькім Парыжам называюць мястэчка Кобрынь, што ў Берасьцейскай вобласьці. І, сапраўды, яно маленькае, прыгожае, чысьценькае, утульнае мястэчка, бацькаўшчына шматлікіх мастакоў, дзеячаў... Аднак прыканцы 60-х гадоў для савецкае сыстэмы ён асацыяваўся з тэрарызмам, іншадумствам, здрадай партыі. Цяпер кобрыньскія падзеі тых часоў для нас – сымбаль свабоды й зьменаў.***

**Уладзіслаў Вяршыла:** У 1969 годзе я навучаўся на 3 курсе юрыдычнага факультэту БДУ. Назаўсёды запомню той камсамольскі сход. Ён адбыўся якраз напярэдадні 8 сакавіка. Пасьля, калі я прыходзіў на дыскатэку, са мной адмаўляліся танчыць дзяўчаты. Мае знаёмыя казалі: «Гэткіх, як ты, страляць трэба, вешаць!» Страшным ударам стаўся выступ мае кляснае кіраўніцы: «Гэтым вяршылам нельга даваць магчымасьці атрымоўваць вышэйшую адукацыю!»

Уладзіслава й ягоных сяброў называлі тэрарыстычнай арганізацыяй, здраднікамі Бацькаўшчыны й партыі, маладымі прыхільнікамі прагнілага Захаду. А тым кобрыньскім хлопцам было толькі па 18-19 гадоў. Дык што ж зрабілі Ўладзь і Рыгор Пратасевічы, Вадзік Мікашэвіч, Сяржук Яцкевіч, Слава Вяршыла ды іншыя, каб савецкая сыстэма кінула ўсю сваю моц на барацьбу зь імі?

**Уладзіслаў Вяршыла:** Мы бавілі час ў хаце Сацэвічаў. У іх шмат сваякоў жылі за мяжой, яны й дасылалі розныя кнігі, выданьні. У той час практычна ніхто ня меў тэлевізараў, радыёпрыймачоў. Таму асноўнай крыніцай інфармацыі быў друк і размовы. Моладзі заўсёды хочацца спазнаць нешта забароненае, дазволенае здаецца нецікавым.

Цяпер мы назвалі б гэтыя сходы Клюб вясёлых і дасьціпных. Юнакі вырашылі ня проста зьбірацца, але ўтварыць клюб з назовам «Абракадабра» – пародыя на тое жыцьцё. Аднак палітыкі там не было. Палітыкі ставала й без таго: шматлікія камсамольскія сходы, палітінфармацыі, пратаколы, парадкі дня.

**Уладзіслаў Вяршыла:** У «Абракадабры» мы займаліся тым, што нельга было рабіць на камсамольскіх паседжаньнях. Нас дастаў гэты ідыятызм. Нам патрэбны быў сьмех, гумар, энэргія. Мы думалі, што для шчасьця трэба, каб усе забаўляліся, усьміхаліся, і для гэтага зусім не патрэбны камсамол. У нас не было іншых прыкладаў моладзевых арганізацыяў, таму рабілі пародыю зь яго. У нас быў свой Статут, праграма дзеяньняў, свой лёзунг:

«Чтоб понять мир такой,
Надо встать вниз головой!»

Каб стацца сябрам нашай



арганізацыі, трэба было здаць уступны ісыт: устаць дагары нагамі, пракрычаць цяжкавымоўны пароль «абракадабраю», паказаць пантаміму. Было ў нас і сваё выданьне – «Калялітаратурны часапіс «Кавардак»,– дзе зьмяшчаліся вершы, сьмешныя гісторыі, уражаньні ад прачытанага. Ілюстрацыі – абстракцыйныя малюнкі з часопісаў.

Гумар меўся быць паўсюль. У іхнай калекцыі ўлюбёнымі былі фатакарткі бітлоў з унітазамі на шыях, рэпрадукцыі карцін, якія мастак намаляваў барадой, малпа-скульптар... Клюб «Абракадабра» злучыў моладзь, зрабіў нас «прасунутымі»: мала хто ў СССР ведаў пра Сальвадора Далі, Бітлз, Элвіса Прэсьлі, Ёнэска, кірункі рок-музыкі, нават пра Кнігу рэкордаў Гінэса.

**Уладзіслаў Вяршыла:** Асабіста я ганаруся рэкордам, што паставіў для нашае Кнігі: хутчэй за ўсіх разьбіў вінілавы дыск і засунуў яго ў бутэльку. Аднак хутка перахварэлі дзяцінствам і ў пачатку 1969 году вырашылі рэфармаваць клюб, надаць яму адукацыйны характар. Але ў тым часе шмат нашых сяброў вучыліся, служылі ў войску. Таму мы напісалі праекты новых дакумэнтаў і даслалі поштай кожнаму зь іх для азнаямленьня.

**Мікалай Кандратаў** потым распавядаў: «А 3-ай гадзіне ўначы перапалоханы старшыня роты выклікае мяне на допыт. Маўляў, у лісьце да цябе я знайшоў слова «клюб»! Хлопец так ганарыўся «Абракадабрай», што вырашыў упрыгожыць нашыя магчымасьці, сфэры працы. Так старшыня даведаўся, што яны нібыта слухаюць ВВС, абмяркоўваюць падзеі за мяжой. Матар'ял адаслалі ў Маскву. З цэнтру прыйшоў загад у Менск: тэрмінова разабрацца.

**Уладзіслаў Вяршыла:** Мы ганарыліся: намі займаецца КГБ. Мы хацелі ўсімі сіламі дапамагчы ім, апісвалі нашыя гульні, спаборніцтвы. Мы ня верылі, што ўсё гэта сур'ёзна. Але калі я быў у службовай выправе ў Лідзе, нам чыталі лекцыю пра падзеі ўва Ўсходняй Эўропе і згадалі тэрарыстычнае аб'яднаньне ў Кобрыне, што супрацоўнічае з ЦРУ. Было паведамлена, што «Вяршыла Ўладзіслаў Сьцяпанавіч – агент».

Сапраўды, падзеі ў Чэхаславаччыне змушалі ўлады сачыць за кожным савецкім грамадзянінам. Увесь час праводзілі паралелі з гэтай краінай, распавядалі пра чэскі моладзевы клюб «Дзьвюх тысячаў словаў». Менавіта з гэтай літаратурнай «тэрарыстычнай» (гэтак яе называлі палітрукі) арганізацыяй параўноўвалі «Абракадабру».

Пазьней усё ж было вырашана, што дзейнасьць хлопцаў з «Абракадабры» ня ёсьць небясьпечнай для дзяржавы, аднак «юнакі паводзілі сябе не пакамсамольску». Таму далей гэтае пытаньне разглядаў камсамол.

**Уладзіслаў Вяршыла:** Мяне выключылі з камсамолу, выгналі з унівэрсытэту, ня бралі на працу. Узялі толькі на будоўлю, дзе працавалі апошнія алькаголікі й злачынцы. Ад нас усе адвярнуліся. Мяне падтрымоўвалі толькі бацькі. Я дамогся пераводу на завод, у 1973 годзе мяне нарэшце ўзялі ў камсамол (інакш я ня здолеў бы паступіць у ВНУ, уладкавацца на працу).

Мая мара спраўдзілася: я стаўся праўнікам. Уладзімер Сацэвіч цяпер лідэр Беларускае партыі «зялёных». Леанід Вераб'ёў – кандыдат эканамічных навук. Мы сталіся вядомымі, паважанымі людзьмі, савецкая сыстэма ня здолела нас зламаць.

***Наадварот, яны згуртаваліся, сталіся моцнымі, прагнымі да справядлівасьці й шчырасьці. Аднак такога лёсу нікому не жадаюць. І вельмі паказальна, што ў 1990-я гады, ува ўмовах таталітарызму, 18-гадовыя кобрынскія хлопцы вырашылі адрадзіць «Абракадабру», каб захаваць выспу свабоды, радасьці, сьмеху й маладосьці ў Маленькім Парыжы.***

*P.S. Аўтар шчыра ўдзячны Андрэю Чыруну й Рыгору Вяршылу за пададзеную інфармацыю.*

**Натальля**

# Я нарадзіўся тут!

***Ура-а-а-а-а! Нарэшце адбылася прэзэнтацыя доўгачаканага і шмат-рэкламаванага супольнага праэкту беларускіх музыкаў "Я НАРАДЗІЎСЯ ТУТ".***

Дзесьці за паўгадзіны да пачатку заля пачала запаўняцца людзьмі. Як заўжды, большасьць складалі маладыя ды патлатыя. Але ж значную частку складалі таксама й людзі сталага – 40-45 год – веку. Трэба адзначыць, што міліцыянты павінныя былі абкружыць к/з "Менск" трайным колам ачапленьня, бо заля перад пачаткам больш нагадвала паседжаньне Каардынацыйнай Рады Дэмакратычных Сілаў: сярод гледачоў былі заўважаныя сп. сп. Вячорка, Лябедзька, Бандарэнка, Бяляцкі...

Але ж вернемся да нашых "баранаў"... Канцэрт пачаўся амаль без спазьненьня з добрай павольнай песьні хрысьціянскіх матываў. Потым жа пайшла песьня імём якой быў названы альбом. Пералічваць далейшыя песьні не мае сэнсу, па-першае, таму што ўсе яны вядомыя чытачу: "Радзіма, мая дарагая" у апрацоўцы гурта НРМ, "Люблю наш край", гімн БНР "Мы выйдзем шчыльнымі радамі". Увогуле, стварылася такое ўражаньне, як сказала адная спадарыня, што "хлопцы вырашылі йграць першую частку канцэрту выключна для "баброў", каб яны ўспомнілі, як усё пачыналася: бяз грантаў, за ідэю".



...Да, дарэчы, як заўжды вылучыліся добрыя шэра-блакітныя хлопцы, якія ня тое, што не давалі танчыць люду, але ж калі я ўстаў пад час выкананьня "Мы выйдзем шчыльнымі радамі", да мяне кінуўся нейкі чувак у камуфляжы, з літарамі "К" на пагонах і загадаў мне сесьці. Пачуўшы ў адказ, што пакуль гучыць гімн, ніхто ня здолее пасадзіць мяне, ён пабег са скаргаю да афіцэра. Апошні па-дыйшоў да мяне й папулярна патлумачыў, што наступным разам яны выведуць мяне з залі...

Дык вось, у залі пачаліся разгортвацца нейкія незразумелыя падзеі. Аднекуль узяўся сьцяг, які праўда ў хуткім часе забралі МУСаўцы. І вось дзесьці праз пару хвілінаў пасьля гэтага першая частка канцэрту скончылася. Мы рушылі да дзьвярэй, якія пільна ахоўваліся шэраю істотаю. Зьвярнуўшыся да яе з прозьбаю вярнуць сьцяг, у адказ мы пачулі:

- Свободны!

Шэра-блакітны думаў аб сабе занадта шмат, таму ў адказ яна пачула:

- Мы та свабодныя, як і вы. А што нейкія праблемы?

І тут, як кажацца, Астапа панесла. Міліцыянт выказаў аб нас усё, што думаў. Але ж, пачуўшы ў адказ прозьбу размаўляць з намі больш паважліва й пра наступствы парушэньня закона "Аб міліцыі", хутка рэтыраваўся. Доўга яшчэ пасьля сярод МУСаўцаў было чутно:

- Много развелось умных всяких белорусскоязычных, которые законодательство знают!

Але ж мы зноўку адыйшлі ў бок ад тэмы. Пасьля антракту пачалася другая частка. Гэта быў сапраўдны драйв: "Пагоня" на мэлёдыю "Марсэльезы", "Магутны Божа", самая смутная "Крывавае сьвята"... Песьні сапраўды аб'ядноўвалі тых, хто сабраўся ў залі. Было бачна, **ШТО ЎСЕ МЫ НАРАДЗІЛІСЯ ТУТ! І МЫ БУДЗЕМ ЖЫЦЬ ТУТ!**

І шмат часу пасьля сканчэньня канцэрту ў залі стаялі аматары добрай музыкі ў надзеі, што, можа быць, яны выйдуць і сыграюць яшчэ адну песьню. А пасьля, па шляху да мэтро, доўга `шчэ можна было пачуць гучнае **"ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!"**.

**АМАТАР**

# КАЛЯДА-КАЛЯДА

***Каляды... ці Раство Хрыстова... Дзьве назвы аднаго сьвята: першае – паганскае, другое – хрысьціянскае... Мабыць, толькі ў нашае сінявокае краіне магчыма такое спалучэньне традыцыяў. Толькі беларусы, я ўпэўнены, могуць адначасова шанаваць свае хрысьціянскія й язычніцкія карані. Ды не толькі шанаваць, але ж кожнага году сьледваць ім і рабіць так, як гэта было яшчэ пры Вітаўце ды Ягайле.***

Ці быў хто з вас, шаноўныя чытачы, на Калядах ў вёсцы? Гэта ж непаўторна: жывыя народныя традыцыі, жывая мова народу. Гэта ж проста вельмі цікава ня толькі ўдзельнічаць у калядных традыцыях, але ж і проста назіраць за імі збоку.

Ну вось напрыклад мае ўражаньні ад сьвяткаваньня Калядаў у вёсцы.

Па-першае, 24 сьнежня – строгі пост: ні малака, ні каўбасы – усё постнае. Да першае зоркі ўсе толькі глынаюць сьлінкі, гледзячы на сталы, што ломяцца ад страваў.

Пасьля сьвяточнае вячэры моладзь выходзіць на вуліцу. І тут пачынаецца маладая вольніца: успамінаюць усё, што па расказах бацькоў-бабуль-дзядуль рабілі на Калядах... І панеслася: да трох-чатырох гадзінаў ранку гаспадары ня могуць спакойна спаць. Штохвіліны пад вокнамі нехта праходзіць, нечага шукае.

А ў той час моладзь на вуліцы забаўляецца. Першая справа – паздымаць брамы ды весьніцы на ўсіх падворках, дзе гэта магчыма. Але ж ня проста паздымаць... Абавязкова трэба заперці іх куды далей ад дому гаспадара, каб той зранку, калі так любіць спаць ды ня можа ўсачыць за гаспадаркаю, пабегаў бы па вёсцы, шукаючы маёмасьць. А тое можна й заперці на дрэва весьніцы тых, хто найболыш дакучаў табе ў гэтым годзе...

Другая справа – грукалка. Робіцца вельмі проста: цьвік, бульбіна ды нітка даўжынёй мэтраў 10-15. Цьвік заганяецца ў раму вакна, да яго прывязваецца нітка, а да яе – бульбіна. Потым адыходзіш мэтраў на 10, прысядаеш, каб з вокнаў цябе не відно было, ды пацягваеш нітку. А бульбіна ш той час у вакно: грук-грук. Гаспадар падыходзіць да вакна, але нікога ня бачыць. Лягае зноўку спаць. А нехта – грук-грук у вакно... І так можа працягвацца больш за паўгадзіны.

Пасьля весьніцаў ды грукалак ідзеш па вёсцы ды шукаеш, што б яшчэ такога ўчварыць: то воза ў каго з двору скрадзеш ды запрэш на іншы канец вёскі, то дзьверы падапрэш ды коміна анучамі заб'еш, а тое, калі выпадзе такая магчымасьць, закладзеш браму будаўнічымі блёкамі ці цэглаю, пабудаваўшы гэткую Вялікую Кітайскую Сьцяну, а тое й анучку якую чырвона-зялёную з сельсавету здымеш...

Прыходзіш дахаты, адчуваеш прыемную стому ды разумееш, што дзень не прайшоў задарма. Бо назаўтра ты будзеш назіраць, як людзі бегаюць па вёсцы, шукаючы сваю маёмасьць, ды ціхенька пасьмейвацца пра сябе...

*Рабіў шкоду* **Дайновіч**

# Сыбірыяда

*Niama na śviecie horšaje skaciny,*
*Čym maładaja statnaja žančуna.*
**Jan Čarnaduš**

**Пралёг**

*У гэтай паэме хачу вам казаць,*
*Аб тым, аб чым хопіць напэўна ілгаць,*
*Аб злой рэчаіснасьці – праўдзе жыцьця,*
*Аб чыстай памылцы, дзяцей пачуцьцях.*
*І хай гэта будзе наказам усім:*
*Вясёлым падлеткам і дзядзькам старым.*
*І як з сваіх каркаў мы скінем абцас,*
*Мы вып'ем з сябрамі за волю і нас...*

I

Зваліўся Адам, чарку ўзяўшы Айца,
Ён нічога ня ведаў і піў, як дзіця,
А Божа, напэўна, як лепей хацеў,
Дастаў яго рэбра... Й з таго чага меў
Дадаўшы ігліны, памылак, вады,
Надзьмуўшы паветра і жыцьця туды
Стварыў не жывёлу, а нейкі падман,
І ўсё гэта разам жанчынай назваў.
Прачнуўся Адам: "Божа, што ты зрабіў?
Навошта мяне падмануў, разьдзяліў?
Навошта, скажы мне?.. Цяпер мне канец..."
І Бог супакойваць Адама пачаў:
"Каб ты, маё дзіцятка, не сумаваў...
Але памыліўся, прабач мне, прабач,
Жыві, як жывецца, ды толькі ня плач..."
Сто трыццаць гадоў як гадзіна прайшлі,
І Эва з Адамам асобна жылі.
Хавалісь адзін ад аднаго па кустах,
Ды нешта зрабілась і здарылась так...
Вось першая пара – каханьне і сьвет,
Ды Эва забыла стары запавет,
А ў садзе Эдэме, як на бяду,
На яблыне гад пільнаваў чараду.
Сказаў ён жанчыне: "Хто ён, гэты Бог?
Такая ж Багіня і ты... Калі б змог,
Каб толькі Адам цябе падтрымаў,
Вы сталі б Багамі бяз вычарных спраў.
Вазьмі гэты яблык, ня бойся, сьмялей,
І будзеш тады ты за Бога мацней,
Адама частуй, хай і ён угрызе –
Дваім вам Багамі быць шмат прыгажэй".
І Эва Адама туды прывяла,
Угрызла сама і мужчыне дала...
Узгневаўся Бог, пачарнеў белы сьвет,
Парушылі людзі яго запавет.
За гэты праступак ён наканаваў
Цяжкое жыцьцё і з Эдэму прагнаў.
І так павялося з далёкіх часін –
Мужчынам балюча ад дзеяў жанчын.
Ды толькі рух часу ня вернеш назад...
Трываюць мужчыны жаночы разлад...

**Уладзь Мак**

*(ПРАЦЯГ БУДЗЕ)*

# *Вершыкі*

***Мы працягваем друкаваць вершы сябраў Сьвіслацкае Рады Маладога Фронту. Сёньня на ваш суд выносяцца творы Уладзя Мака:***

***

Тры запалкі на шчасьце,
Памяркоўны падман,
Неспыняльнае шэсьце
На зайздросны курган.
Беларускай краіны
Разагнаныя сны,
Колер сьпелай маліны
Разганяюць сыны.
На атручаных марах
Бацькоўскі той цень,
У раз'юшаных хмарах
Учорашні дзень.
Неўміручыя мэты
Размоў аб жыцьці...
Дзе свабода ты, дзе ты?..
У чырвонай крыві...

**Дрэмакі...**

Дрэмле лес, дрэмлюць палі і ляды,
Дрэмле хуткі калісьці ручай,
Дрэмле выбух глухі кананады,
Людзі ўсе дрэмакі, а нажаль.
Калыханку сьпявае ім гора,
Бесклапотнасьць сьпявае падман,
І сыноў яна вучыць пакорна
Кленчыць моўчкі чужынскім панам.
Хопіць спаць, дрэмакі, прачынацца
Час прыйшоў, хопіць крэхчы, браты.
Беларусі ўжо час адраджацца
Ўзняцца ў гору за лікам сьвятым.
Дрэмле лес, дрэмлюць палі і ляды,
На Радзіме адны дрэмакі,
Вось таму-та і правяць тут гады,
Ашуканцы ды й дуракі...

# Проста анэкдот.

**Вырашылі нейк маладыя патрыёты з МФ згуляць у футбол з эрэнешнікамі. Эрэнешнікі прыпёрліся на стадыён. Стаяць, чакаюць. Прайшло 5 хвілін - нікога няма; 10 - няма; 20, 30 - нікога. Праз гадзіну прыпіраецца пьяны Цімох і кажа:**

**- Буду йграць толькі я. Можа, хто хоча дапамагчы?**

**На трыбунах устае адзін стары габрэй і кажа:**

**- Ну я магу дапамагчы!**

**...89-я мінута матчу. Лік 99:0... Пакуль эрэнешнікі ганяюць па полі габрэя, Цімох забівае пераможны 100-ы гол.**

***

- А ў мяне знаёмы дрэсыроўшчык ёсьць. Рукі й ногі ў некалькіх месцах перагрызеныя, па ўсім тулаве шрамы... Але ён усё роўна кажа: «Не магу жыць бяз рызыкі». І кожнага разу зноўку лезе ў клетку з гэтымі дзікімі зьвярыма. Ды вы, мабыць, чулі аб ім. Куклачоў ягонае прозьвішча...

***

**Хворы:**

**- Доктар, я выпіваю дзьве бутэлькі партвэйну, залязаю на бабу, і ў мяне галава кружыцца.**

**- Да...гэта дрэнна. Але ж выпадак дзіўны. Можа, ўся справа ў бабе? Прывядзіце яе да мяне.**

**- Як жа я яе прывяду? Яна ж на праспэкце Машэрава стаіць!**

***

На вуліцах Менску правялі сацыялягічнае апытаньне. Мінакам прапаноўвалася адказаць на наступнае пытаньне: « Як вы ставіцеся да працы праваахоўчых органаў?» 15% рэспандэнтаў адказалі станоўча, яшчэ 15% - адмоўна. Астатнія 70% «попросили предъявить документы».

***

***Сьвіслацкая Рада Маладога Фронту запрашае да супрацоўніцтва патрыётаў Беларусі. Чакайма вас штосьчацьвер а 19 гадзіне на Варвашэні, 8; штосуботы на апошнім прыпынку тр. №20,49 і аўт. №82, 82д «Серабранка» а 18⁰⁰***

**Рэдакцыйная Рада**:
***Dajnovič,***
*Vika, Uładź Barada,*
*Vital Pałožnik*


**Заснавальнік** -Група Таварышаў. Выдаецца з чэрвеня 2000г. **Выдавец** - Рэдакцыйная Рада. Наклад - **298, 99** асобнікаў.

Пры перадрукоўцы спасылка на газэту **БУДЗЬМА!** абавязковая. Рэдакцыя не нясе адказнасьць за зьмест пададзеных матэр'ялаў; можа не падзяляць меркаваньні аўтараў, друкаваць артыкулы дзеля палемікі. **E-mail:** budzma@inbox.ru